# ВІЦЕБСКАЯ ТРЫБУНА

№ 5, субота, 24 лістапада 2001 года. Выдаецца з кастрычніка 2001 года. Выходзіць штотыднёва. Заснавальнік ГА «ЦМІ «Контур». Каштуе 60 руб.


**TV**

Праграма
Навіны
Падзеі
Парады
Гараскопы
Анекдоты
Сканворды

Photo IREX\ProMedia




# Зіма

ст. 2

## Весткі

20 лістапада ў Віцебску на ганку ЦУМа невядомым быў выстаўлены трохлітровы слоік з плакатам. На плакаце буйнымі літарамі значылася: «На папраўку галавы прэзідэнту». Віцябляне з энтузіязмам аднесліся да падобнага збору сродкаў, і меней як праз паў гадзіны слоік ужо напалову быў поўны грашыма. На жаль, невядома, на якую суму назбіралі грашовай дапамогі прэзідэнту, бо акцыю перапынілі сілавыя органы, забраўшы слоік у пастарунак.

• • •

У драматычным тэатры імя Якуба Коласа прайшлі ўрачыстасці, прысвечаныя Дню работнікаў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчых прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу. На іх былі запрошаны 350 чалавек — кіраўнікі і спецыялісты абласных, раённых службаў, калгасаў, саўгасаў, перапрацоўчых і абслугоўваючых прадпрыемстваў, больш за 200 лепшых механізатараў, жывёлаводаў вобласці. На ўрачыстым сходзе падведзены вынікі сельскагаспадарчага года ў раслінаводстве і 10 месяцаў работы жывёлаводаў. Перадавікі атрымалі ганаровыя граматы абласнога выканаўчага камітэта, грашовыя прэміі, каштоўныя падарункі. Мастацкія калектывы Віцебшчыны парадавалі працаўнікоў сяла святочным канцэртам.

• • •

У Полацку адкрыўся новы аўтаматызаваны перагаворны пункт калектыўнага карыстання з 18 кабінамі міжгародняй тэлефоннай сувязі, 7 месцамі для карыстальнікаў Інтэрнэтам, магчымасцю перадачы факсавых паведамленняў.

Ва ўрачыстасцях прыняў удзел міністр сувязі РБ Уладзімір Ганчарэнка.

• • •

У Віцебскім дзяржаўным тэхналагічным універсітэце прайшла двухдзённая міжнародная канферэнцыя «Сацыяльна-эканамічныя праблемы развіцця прадпрыемстваў і рэгіёнаў».

• • •

У Віцебску пабывалі прадстаўнікі пасольства Украіны ў Рэспубліцы Беларусь. Яны ўручылі медалі «Абаронцу Айчыны» ветэранам Вялікай Айчыннай вайны, удзельнікам вызвалення Украіны.

• • •

На Чорных сажалках пад Віцебскам адбылося ўрачыстае адкрыццё памятнага знака ахвярам фашызму, расстраляных тут пад час Вялікай Айчыннай вайны.

• • •

На выязным пасяджэнні рэспубліканскага Савета па сацыяльна-працоўнай рэабілітацыі інвалідаў па зроку ў Віцебску абмяркоўваліся праблемы працоўнай і сацыяльнай уладкаванасці ў грамадстве невідушчых людзей.

• • •

У Полацкім цэнтры рамёстваў і нацыянальных культур адкрылася выніковая выстава народнага клуба майстроў «Роднасць». Называецца яна «Ля агню даўніны», у экспазіцыі — вышыўка, карункі, вырабы з лазы і саломы, ласкутнае шыццё.

**Падрыхтаваў Юрась ПАДВІШНЯК**

## УВАГА!

З пачатку лістапада рэдакцыя абвяшчае конкурс. Калектыў шапіка «Саюздруку», які прадасць найбольшую колькасць «Віцебскай трыбуны», будзе адзначаны каштоўным падарункам.

**Прыз гэтага месяца — шыкоўны насценны гадзіннік!**

ІМПРЭЗА



Конкурс на самага актыўнага кліента

Фота Таццяны ЧАБАТАРОВАЙ

# Кліент заўсёды мае рацыю

**16 лістапада наведвальнікі віцебскага аддзялення сувязі №15, што знаходзіцца на Маскоўскім праспекце, прынялі ўдзел у першым «Нацыянальным дні кліента», які быў аб'яўлены ў гэты дзень паштовай службай Беларусі.**

У праграму мерапрыемства ўваходзіў продаж паштовых паслуг, выстава перыядычнага друку і філатэліі, раздача сувеніраў і рэкламных буклетаў. Шмат хто пажадаў паўдзельнічаць у конкурсе на самага актыўнага кліента і ў бяспройгрышнай латэрэі сярод падпісчыкаў. А правядзенне спецыяльнага памятнага гашэння «Нацыянальны дзень кліента» стала шыкоўным падарункам для філатэлістаў.

Таксама наведвальнікам прапанавалі анкету з пытаннямі наконт абслугоўвання на УП «Віцебскаблпошта». Хочацца верыць, што заўвагі, прапановы, пажаданні гараджан будуць абавязкова ўлічаныя. Здаецца, і ў нашай краіне, нарэшце, зразумелі, як важна дагадзіць кліенту, калі капіталізм наступае на пяты.

Паводле слоў дырэктара УП «Віцебскаблпошта» Мікалая Смунёва, у аддзяленні сувязі №15 працуюць толькі прафесіяналы. Сёння тут аказваюць больш за 30 паслуг. Сярод іх ёсць і нетрадыцыйныя: экспрэс-пошта па Беларусі «сёння на заўтра»; паштовыя пераводы ў валюце ў краіны СНД, ЗША і Славакію; дастаўка карэспандэнцыі да дзвярэй падпісчыкаў; прыём плацяжоў; фатаграфія на паштоўцы; каталожны гандаль; друк фотаздымкаў; дастаўка падарункаў; пісьмовае віншаванне ад Дзеда Мароза і інш.

У бліжэйшай перспектыве будзе ўведзена і такая паслуга як электронны перавод. «Мы стараемся прадаць свае паслугі эфектна, прыгожа, якасна, сучасна», — зазначыў Мікалай Раманавіч. Што ж, нам застаецца толькі пажадаць сувязістам імпэту і высокакласнага абслугоўвання не толькі пад час прэзентацый, але і ў звычайныя дні.

Таццяна ЧАБАТАРОВА

ПАНАРАМА

## У МВД РАСІІ ЗА ГОД ВЫЯВІЛІ 10000 ЗЛАЧЫНЦАЎ

Амаль 10 тыс. супрацоўнікаў расійскіх органаў унутраных спраў прыцягнута да адказнасці з пачатку гэтага года. З іх больш за 2700 — за крымінальныя злачынствы, звязаныя з карупцыяй. За хабар — 300 супрацоўнікаў. Такія дадзеныя на паседжанні расійскай Думы прывёў намеснік міністра унутраных спраў Яўгеній Салаўёў.

Адзін з кіраўнікоў МВД Расіі паведаміў і пра тое, як штогод у міністэрства прыходзіць каля 40 тыс. лістоў, з якіх прыкладна 1 тыс. — скаргі на супрацоўнікаў органаў унутраных спраў. Каля чвэрці такіх скаргаў пры праверцы атрымліваюць пацверджанне.

| Кірмаш / Прадукты | Полацкі | Смаленскі | Паўднёвы | ГД "Вольга" |
|---|---|---|---|---|
| Мука | 500 | 500 | 420 | 450 |
| Цукар | 670 | 700 | 700 | 700 |
| Грэчка | 550 | 500 | 450 | 480 |
| Тварог | - | 1400 | - | 2000 |
| Малако | - | 330 | - | - |
| Смятана | - | 2300 | - | 1000 |
| Грушы | 1800 | 1400 | 1400 | 1700 |
| Яблыкі | 600 | 700 | 600 | 800 |
| Бананы | 1100 | 1000 | 1000 | 1000 |
| Лімоны | 1800 | 1700 | 1300 | 1500 |
| Мандарыны | 1800 | 2000 | 1800 | 1700 |
| Кавуны | 350 | 400 | 300 | - |
| Бульба | 250 | 220 | - | - |
| Агуркі | 1300 | 2300 | 2500 | - |
| Памідоры | 1200 | 1500 | 1500 | 1400 |
| Цыбуля | 400 | 380 | 400 | 500 |
| Часнок | 1800 | 2000 | 1700 | 2200 |
| Сала | 3000 | 3750 | - | - |
| Свініна | - | 4800 | - | 4500 |
| Ялавічына | - | 3500 | - | 3500 |
| Яйкі | 850 | 850 | - | 830 |

АКТУАЛЬНА

# Зіма пагрукала ў дзверы



Photo IREX\ProMedia

**Першы снег сёлета выпаў 13 лістапада. Колькі дзён з неба ляцела мяккая вільготная вата, а потым ударыў першы лёгкі марозец. Зараз жа на асфальце з'явіўся лёд. Як вынік павелічэнне дарожна-транспартных здарэнняў і першыя пацыенты ў траўмапунктах, пацярпелыя ад слізкіх тратуараў.**

**Калі з галалёдам на аўтамабільных шляхах хоць неяк змагаюцца, то пешаходам амаль паўсюдна прыходзіцца шпацыраваць па ледзяной корцы. Камунальныя службы спасылаюцца на неруплівых дворнікаў, але няўжо яны ўсе такія гультаі і абібокі?**

**Наша рэдакцыя вырашыла пацікавіцца, як сустракаюць зіму жыхары Віцебска:**

*Лідзія Аляксееўна, пенсіянерка, жыхарка дома па вул. Фрунзэ:*

— У маёй кватэры цёпла, каля 20 градусаў. Але ў мінулым годзе было яшчэ цяплей. А ў двары слізка, праўда, месцамі пасыпана пяском. Я хаджу с палкай, баюся ўпасці, таму ў краму сама не іду, чакаю, пакуль прыйдзе сын.

*Віталь, міліцыянер, пражывае ў інтэрнаце па вул. Лазо:*

— У нас не тое, што цёпла, — горача. Пакоі ў інтэрнаце маленькія, робіцца душна, часта адчыняем фортку. На ганку слізка — яго ніхто ніколі не пасыпае пяском.

*Алена, маладая маці, жыве на вул. Б. Хмяльніцкага:*

— Наш дом знаходзіцца ў цэнтры горада, у добрым, прэстыжным раёне, таму мы ніколі не былі пакрыўджаныя няўвагай з боку ўлад. У кватэрах не мёрзнем, на вуліцы не падаем. Наш двор добраўпарадкаваны, побач парк, дзе дворнікі заўсёды пасыпаюць дарожкі. Там вельмі зручна гуляць з каляскай.

*Наташа, хатняя гаспадыня, жыхарка дома па вул. Берасценя:*

— Я хаджу па хаце ў лёгкай спадніцы і басанож. Мне не халодна, бо я шмат рухаюся. А вось мае мужчыны — муж і сын — апранаюцца больш цёпла. Сёлета ў нашым доме ацяпляльны сезон пачаўся на два тыдні пазней, чым звычайна. У кватэры тады было не вышэй за 6 градусаў. Ад сырасці завяліся смаўжы, ўжо некалькі гадоў не магу іх вывесці. У двары не слізка, але разрыта — мянялі ацяпляльныя трубы.

*Сяргей, творчы работнік, здымае кватэру ў доме на вул. Смаленскай:*

— Цёпла... Слізка...

*Таццяна, жыхарка дома на Маскоўскім праспекце:*

— У маім доме цёпла ад усмешак шматлікіх сяброў, якіх я ласкава называю «мае дамачадцы», і ад кахання да мужчыны — пазаканкурэнтнага ва ўсіх адносінах!

*Уладзімір, педагог, жыхар дома па вул. Дзімітрава:*

— Калі не аткрываць фортку, то цёпла. А наогул беларусы выжывуць нават там, дзе вымерзнуць карэлы, фіны, эвенкі, чукчы, алеуты, эскімосы і прадстаўнікі іншых паўночных народаў. Пешаходныя дарожкі не перашкодзіла б пасыпаць жвірам, бо калі людзі падаюць, то звычайна ўжываюць ненарматыўную лексіку...

*Дзмітрый, жыве па вул. Чкалава:*

— Праблема небяспекі ў галаледзіцу знікне, калі дворнікам пачнуць болей плаціць.

*Аляксандр Уладзіміравіч, пражывае на вул. Чарняхоўскага:*

— У гэтым годзе маразы ўдарылі неяк зусім нечакана. Але камунальнікі, здаецца, падрыхтаваліся да зімы загадзя.

*Вадзім, журналіст, жыхар мікрараёна «Поўдзень-6»:*

— У хаце — цёпла, а на душы — як калі...

*Аляксандр, творчая асоба, жыве на вул. Гагарына:*

— Цеплыню ў сваёй кватэры мне давялося ў літаральным сэнсе заваёўваць некалькі гадоў. Звяртаўся і ў домаўпраўленне, і да дэпутатаў... Зараз, нарэшце, адаграваюся за ўсе папярэднія зімы.

Таццяна ЧАБАТАРОВА

НА ВАСТРЫІ

# «Ломка» жыцця

(Працяг, пачатак у №4)

Кансультацыі наркаманаў у развітых краінах наладжаныя даўно. У прыватнасці, у сярэдзіне 1980-х гадоў у Вялікабрытаніі, Аўстраліі і Канадзе пачалі работу праграмы абмену шпрыцоў і дапамогі спажыўцам наркотыкаў...

Цікава, што самае моцнае процідзеянне такая праграма змяншэння шкоды ад наркотыкаў сустрэла ў Амерыцы, бо ЗША з'яўляецца ідэалагічнай радзімай жорсткай рэпрэсіўнай палітыкі ў адносінах да наркотыкаў. Развіццё праграм змяншэння шкоды ў гэтай краіне было дужа складаным. Шмат пачынальнікаў у розных штатах былі арыштаваныя. Напрыканцы 80-х, у сувязі з неабходнасцю забеспячэння стэрыльнасці, у некаторых гарадах ЗША была распачатая нелегальная праграма абмену шпрыцоў. Толькі ў 1992 г. Дэпартамент аховы здароўя штату Нью-Йорк зрабіў выключэнне з агульнага заканадаўства, афіцыйна пацвердзіўшы легальны статус такой праграмы, якую ажыццяўлялі грамадскія арганізацыі Нью-Йорка. Да таго часу, напрыканцы 80-х, на Гаваях ужо пачаў працу пункт абмену шпрыцоў, а яшчэ раней такія пункты ўзніклі ў Такоме і Сан-Франциска.

У Беларусі над пытаннем стрымлівання росту ВІЧ усур'ёз задумаліся, толькі калі ўлетку 1996 г. у маленькім гарадку Светлагорск Гомельскай вобласці выявілі больш за 900 інфіцыраваных наркаманаў.

Самі наркаманы, з якімі даводзілася размаўляць, дужа скептычна ставяцца да рэкламуемых па расійскіх тэлеканалах праграм лячэння кшталту «Дэтокс» і г.д. Аляксей К. меўняшчасце купіцца на прыгожыя абяцанкі, але, калі ў Маскве даведаўся, што спецыяльнае лячэнне каштуе больш за 1000 даляраў, вырашыў: «Лепш за такія вялікія грошы калоцца ў сваё задавальненне». У Віцебску дагэтуль няма «класічнага» цэнтру лячэння наркаманаў, дзе маглі б гарантаваць больш-менш эфектыўнае пазбаўленне ад залежнасці. У Беларусі толькі два спецыялізаваныя аддзяленні: у рэспубліканскай псіхіятрычнай бальніцы «Навінкі» — на 40 — коек і ў Мінскім гарадскім наркалагічным дыспансэры — на 20 коек. У абласных цэнтрах на базе псіхіятрычных бальніц вызначаныя палаты на 3-5 месцаў (у асноўным для мужчын). Жанчыны з наркалагічнай залежнасцю знаходзяцца ў аддзяленнях псіхіятрычнага профілю. Ананімнае лячэнне наркаманіі ў рэспубліцы ёсць, але выкарыстоўваецца надзвычай слаба... У наркамана заўжды ёсць выбар: надалей ужываць зелле, альбо паспрабаваць пазбавіцца згубнай звычкі. Аднак, на жаль, падчас чарговай «ломкі», калі наркаман вар'яцее, адчуваючы моцны фізічны боль, ён найчасцей жадае яшчэ і яшчэ кайфу, каб забыцца хоць на час. Словазлучэнне «шлях у нікуды» зрабілася ўжо журналісцкім штампам. Аднак гэта праўда — цяжкая праўда маладых людзей, якія не змаглі рэалізаваць сябе ў жыцці. Хто яны? Слабакі, што спакусіліся на жаданне пабачыць свет праз акуляры небяспечнага «задавальнення»? Ці нашы браты і сёстры, сябры, дзеці? Можа, ласкавае слова, увага маглі б утрымаць іх ад згубы? Мы ўжо звыклі разлічваць не на дапамогу дзяржавы, а на сябе. Апошнім часам — на Бога, які кожнаму дае па веры ягонай...

Сяргей МІХАЙЛАЎ

ІМПРЭЗА

# Lab dien, Latvija

19 і 20 лістапада ў Віцебску праходзілі Дні Латвіі, прымеркаваныя да 83-ай гадавіны незалежнасці Латвійскай Рэспублікі. Адразу па прыбыцці ў наш горад госці прынялі ўдзел у прэс-канфэрэнцыі. Дэлегацыі гарадоў Даўгаўпілса і Рэзэкне прадстаўлялі спецыялістаў у розных галінах экономікі, культуры, сацыяльнай сферы. Таму і ў размове з журналістамі закраналіся самыя разнастайныя пытанні: экалагічныя праблемы і гандль, супрацоўніцтва, эканамічнае і культурнае.

У панядзелак у тэатры імя Якуба Коласа дэманстраваўся спектакль Даўгаўпілскага тэатра па п'есе Яна Райніса «Вей, ветрык». 20 лістапада праходзіла дзелавая сустрэча дзеячаў прамысловасці і прадпрымальнікаў Латвіі і Віцебска. Па словах удзельнікаў, яны зацікаўленыя ў супрацоўніцтве і падобныя бізнес-сустрэчы неабходныя, каб хутчэй завязваліся кантакты. І адзін, і другі бок старанна вывучалі пытанні, звязаныя з падатковым і мытным заканадаўствам абедзвюх краін, развіццем свободнай эканамічнай зоны «Віцебск».

У аўторак адбылася беларуска-латышская літаратурная сустрэча з пісьменнікамі і паэтамі Віцебска, Мінска, гарадоў Латвіі.

**Юрась ПАДВІШНЯК**

# Афіцыйны візіт

**На Віцебшчыне з рабочым візітам пабываў прэм'ер-міністр Беларусі Генадзь Навіцкі.**

На пачатку візіту кіраўнік ураду азнаёміўся з работай гандлёвых прадпрыемстваў абласнога цэнтра — пабываў на аб'ектах адкрытых акцыянерных таварыстваў «Ніка» і «Веста».

Сярод праблем, якія непакояць сёння прадстаўнікоў гандлю, называлася праблема квотаў на некаторыя тавары, забеспячэнне роўных умоў гаспадарання для ўсіх суб'ектаў, што займаюцца гандлёвай дзейнасцю.

Наступным пунктам маршруту паездкі Генадзя Навіцкага было прадпрыемства «Марка», дзе ён азнаёміўся з вытворчасцю.

Не абмінуў увагай Генадзь Навіцкі і сельгасвытворцаў. Кіраўнік ураду азнаёміўся з праблемамі, ходам рэканструкцыі і перспектывамі развіцця комплекса па адкорме буйной рагатай жывёлы ў саўгасе-камбінаце «Звязда» Віцебскага раёна.

У другой палове дня прэм»ер-міністр наведаў арэндае прамыслова-гандлёвае прадпрыемства «Аршанскі льнокамбінат».

Гэтае буйнейшае прадпрыемства галіны апошні час ліхарадзіць. Дэфіцыт сыравіны, нізкая яе якасць, падзенне аб'ёмаў вытворчасці, недахоп абаротных сродкау — фактары, што негатыўна ўплываюць на рытмічнасць работы прадпрыемства. Адсюль і зніжэнне экспартных паставак. Асартымент жа прадукцыі дазваляе 75% яе экспарціраваць і мець валюту.

Прэм'ер-міністр дэталёва азнаёміўся з праблемамі вытворцаў і паабяцаў дзяржаўную падтрымку.

У прыватнасці, прынята рашэнне аб прадастаўленні валютнага крэдыту ў памеры аднаго мільёна долараў ЗША на год і з выплатаў 5% гадавых.

Напалову будуць зніжаны тарыфы за спажываемую цепла-і электраэнергію шляхам адмены перакрыжаванага субсідзіравання энергарэсурсаў.

Пастаўлена задача забяспечыць пастаўку на камбінат не менш чым 5 тысяч тон даўгунца. Кіраўніцтву льнокамбіната даручана распрацаваць праграму перадачы жылога фонду, а на працягу наступнага года разам з мясцовай вертыкаллю вырашыць пытанне аб перадачы астатніх аб'ектаў сацыяльнай інфраструктуры.

Прэм'ер-міністр паведаміў таксама, што ход рэалізацыі рэспубліканскай праграмы «Лён» будзе разгледжаны ў лютым на пасяджэнні прэзідыума Савета міністраў краіны.

**Юрась ПАДВІШНЯК**



НАПАМІН ПРА БЕЛАРУСЬ

# Беларускія кнігі ў Арэгоне




У бібліятэцы універсітэта штата Арэгон у Юджыне знаходзіцца не менш за тысячу кніг, якія так ці інакш датычаць Беларусі, — напісаных альбо на беларускай мове, альбо беларускімі аўтарамі. Паводле вынікаў папярэдняга камп'ютэрнага пошуку, ключавое слова «Беларусь» змяшчалі анатацыі 464 кніг, што адпавядае пэўнай сярэдзіне ў параўнанні з прадстаўленасцю нашых суседзяў: «Расія» — 17193, «Польшча» — 2672, «Украіна» — 1371, «Літва» — 288, «Латвія» — 254.

Зараз беларускія выданні трапляюць у бібліятэку праз пасрэдніцкія кнігагандлёвыя арганізацыі. Да 1991 г. паміж амерыканскімі выдавецтвамі і савецкім ведамствам «Международная книга» дзейнічала стабільная сістэма натуральнага кнігаабмену. Зараз жа «MIR International, Inc.» прапануе купляць кнігі, што невыгодна для амерыканскіх бібліятэк. Акрамя таго, цікавасць не толькі тутэйшых, але і ўвогуле амерыканскіх студэнтаў да краін Усходняй Еўропы і СНД за апошнія гады істотна знізілася.

Найбольшая колькасць беларускай літаратуры размешчана ў аддзеле ўсходнеславянскага мова- і літаратуразнаўства. Тут 10 тамоў «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы» пад рэд. А.Жураўскага (1982) і 3 тамы «Русско-белорусского словаря» пад рэд. К.Крапівы і П.Глебкі (1998), «Слоўнік антонімаў беларускай мовы: канкрэтныя выпадкі ўжывання» У.Лазоўскага (1994), «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы» пад рэд.І.Мартынава (1978), «Слоўнік паронімаў беларускай мовы» С.Грабчыкава (1994), «Кароткі слоўнік беларускай мовы: правапіс, вымаўленне, націск, словазмяненне, словаўжыванне» Г.Арашонкавай і В.Лемцюговай (1994).

Замежныя выданні прадстаўлены крытычным зборнікам «Далёкія і блізкія: беларускія пісьменнікі замежжа» (Беласток, 1997), двухтомным падручнікам «Fundamental Byelorussian» В.Пашкевіч (Таронта, 1978) і слоўнікам «Historical Dictionary of Belarus» Я.Запрудніка (Ланхам, 1988). Ёсць тут і літаратурна-гістарычны зборнік «Opposition to Sovietization in Belorussian Literature, 1917-1957» Э.Адамовіча (Мюнхен, Інстытут вывучэння СССР, 1958). Сярод рарытэтаў у гэтай галіне варта згадаць «Geschichte der weissrussischen Volksdichtung und Literatur» Я.Карскага (Берлін, 1926).

Мастацкая літаратура — творы Я.Чачота, Я.Коласа, М.Багдановіча, К.Крапівы, П.Глебкі, П.Панчанкі, Я.Сіпакова, А.Лойкі, У.Караткевіча, Я.Брыля, Н.Гілевіча, У.Карызны, М.Лобана, Б.Бур'яна — прысутнічае тут часткова ў перакладах на англійскую або рускую мовы. Асабліва шырока прадстаўлена творчасць В.Быкава. Каля 20 кніг прыпадае на крытыку, публіцыстыку і мастацкія творы А.Адамовіча і С.Алексіевіч.

Замежныя выданні па беларускай гісторыі — гэта падшыўкі часопіса «The Journal of Byelorussian Studies» (Лондан, Англа-беларускае таварыства, 1965-88), кніга «Belarus: at a Crossroads in History» Я.Запрудніка (Болдэр, 1993) і сугучная з яе назвай «Belarus at the Crossroads» Ш.Гарнета і Р.Легвалда (Вашынгтон, 1999), «Belarus: from Soviet Rule to Nuclear Catastrophe» Д.Мэрплса (Нью-Йорк, 1986).

А чым прадстаўлены ў бібліятэцы Віцебск? Такіх кніг усяго некалькі. Гэта вядомы «Витебск: энциклопедический справочник» пад рэд. І.Шамякіна (1988), бібліяграфічны ўказальнік «Витебск в десяти веках» Д.Генінай (1975). Віцебскае мастацтва адлюстравана ў перакладзенай на англійскую мову кнізе «Suprematism» К.Малевіча (Нью-Йорк, 1974), 5 музычных гуказапісах і парцітуры А.Копланда «Vitebsk: Trio for Piano, Violin and Violoncello» (Нью-Йорк, 1934). Тут, у Юджыне, знаходзяцца матэрыялы міжнародных навуковых канферэнцый «Бахтинские чтения» і міжнародных пленэраў «Малевич, УНОВИС, современность» пад рэд. Т.Катовіч, якія былі выдадзены ВДУ і яго былым выкладчыкам М.Паньковым.

**Уладзімір СЛАБІН, выкладчык ВДУ**

ГІСТОРЫЯ

# Тайна пропавших картин

**Где находятся три четверти наследия первого учителя Марка Шагала?**

В Витебске жил, работал и погиб художник Юдель Моисеевич Пэн. Шагал называл его своим первым учителем живописи. Но судьбе было угодно, чтобы творчество учителя стали открывать и ценить благодаря всемирной славе ученика...

Витебский художественный музей обладает самым крупным собранием картин Пэна. Здесь хранится 183 его работы — 166 живописных и 17 графических. Такое богатство в нашем городе появилось в мае 1992 года, когда Национальный художественный музей передал местному 152 работы. До этого что-то приобреталось, что-то дарилось, что-то передавалось. Но это, казалось бы, огромное количество — лишь одна четвертая часть того наследия, которое еще при жизни художник передал государству.

Возникает закономерный вопрос: где все остальное? Для этого стоит вспомнить историю. По свидетельству очевидцев, которые бывали у Юделя Моисеевича, его комнаты были от пола до потолка увешаны работами. А бывало у него очень много народа. Дело в том, что мастерская и квартира были одновременно картинной галереей на общественных началах. Художник проводил там экскурсии, рассказывая о своих работах. Современники на глаз определяли, что картин было около тысячи. Впрочем, мастер не пускал их в небольшую комнатушку, где у него хранились полотна с обнаженной натурой. «Ню» было только для него и для единиц избранных.

Накануне смерти Пэн вознамерился передать свои работы государству. К нему приехали представители Совета народных комиссаров Бразер и Райхман. Это были люди, которых он хорошо знал, с которыми общался, работал. Но так как он был одинок и в возрасте, отдел по делам искусств при СНК забеспокоился о том, куда уйдет наследие. Итак, опись чиновниками была составлена 17 февраля 1937 года. В ней числилось около 800 картин. Среди них имелись и творения Шагала. Правда, списки были не совсем точными. В них не указывались ни размеры, ни техника, ни материалы, на которых писал мастер. Все идет одной строкой. Названия также достаточно произвольны. Дело в том, что некоторые работы Пэна имели по 5-6 названий. Одна и та же картина была многоименна. Художник попросил от его имени составить заявление на имя председателя Совета народных комиссаров Голодеда о передаче работ государству. Вряд ли это было сделано под нажимом, так как после отъезда экспертов Юдель Моисеевич с радостью и одобрением рассказывал соседям, что скоро передаст свое наследие государству.

После трагической смерти в ночь с 28 февраля на 1 марта все было опечатано, а потом передано Историческому музею. Впоследствии президиум областной исполнительной власти решил создать галерею Пэна. До наших дней сохранились качественные списки о коллекции мастера из 827 картин, включая и работы других художников. А завтра была война...

В спешном порядке началась эвакуация. Работы были доставлены в Саратовскую картинную галерею имени Радищева. Немцы наступали. И хранителям было не до ведения инвентарных книг. Наверняка, коллекция в Саратове даже не разбиралась. Вполне возможно, что наследие художника не полностью было запаковано, погружено и вывезено. Может, эшелон попал под бомбежку. Но после окончания войны не все картины из собрания вернулись в Беларусь.

Сегодня в республике работ Пэна немного. 183 — в Витебске, 35 — в Минске, 1 — в Могилеве, с десяток — в частных коллекциях. Где остальные 600? Существует множество версий и гипотез. Вот одна из них. В 1991 году бывший директор минских музеев Шукелойц в интервью «за океаном» говорил о том, что немцы дали распоряжение собрать все работы художников-евреев и отправить их в Австрию в Музей еврейской культуры. Списки же вывезенного, по его словам, находятся в библиотеке имени Ф.Скорины в Лондоне. Но доступа к ним пока нет. Ах, как бы они пригодились! И одной загадкой Пэна стало бы меньше.

Интерес к личности и творчеству Юделя Моисеевича с годами растет. В 1995 году на выставке в Нью-Йорке хотели приобрести все работы Пэна. Один из раввинов, приехав в Витебск и осмотрев запасники художественного музея, возжелал приобрести картину «Сват». Тут же предлагая за нее «Мерседес». Национальное достояние республики не продается...

Сегодня музей активно работает над созданием каталога художника. Материал практически собран. Дело за малым — нет денег. Впрочем, как нет в стране и трех четвертей наследия, когда-то переданного Юделем Моисеевичем Пэном государству.

Автор благодарит за помощь в написании материала научного сотрудника Витебского художественного музея Инну Павловну Холодову.

**Валентин ПОНТУС**

